www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 61 (4313)**

3 жніўня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Дзякуй за тое, што Вы прачыталі гэты нумар. Адгукніцеся, калі ў Вас ёсць заўвагі, меркаванні, прапановы, тэмы.*
*Тэл. (8 017) 328 68 71*

ЭКСПЕРТИЗА

*Пару дней назад на одном из хлебных полей Минского района журналист Агентства телевизионных новостей* ***Андрей Кривошеев*** *задал А.Лукашенко такой вопрос: «Эксперты говорят: нынешний год по многим климатическим условиям повторяет страшный, а вы лучше других помните, 1999-й. Помните ситуацию с Чехией, и наши здесь, местные разговоры… И отсюда опять же возникли те же самые разговоры с 90-х – нужно ли нам кормить своих хлеборобов-аграриев или лучше заняться другой специализацией, и бросить деньги, якобы эффективнее бросить деньги, на поддержку импортных, может, американских, с их соей?»*

*При этом журналист не назвал тех авторитетных экспертов, которые считают, что нужно прекратить инвестиции в белорусскую деревню. А уточнить их имена у Кривошеева не удалось – вчера, как сказали в Белтелерадиокомпании, он весь день был на съемках.*

*Лукашенко, отвечая на вопрос, заметил: мол, потеряем сельское хозяйство – попадем в зависимость, потеряем суверенитет.*

*Бывший заместитель председателя Минского облисполкома, экс-председатель профсоюза работников АПК* ***Александр Ярошук*** *не только прокомментировал непрофессиональный вопрос госжурналиста, но и выразил свою позицию:* ***только частная собственность на землю изменит ситуацию в сельском хозяйстве.***

## Александр ЯРОШУК: «Земле нужен хозяин!»

### С любовью и трепетом, но без взаимности

– Было бы исключительно безответственно со стороны руководства любой страны отказаться от поддержки сельского хозяйства, – *высказывает свое мнение Александр Ярошук.* – Эта отрасль весьма специфическая, и, может быть, только правительство США в меньшей степени поддерживает своих фермеров, потому что там условия уникальные.

То, что белорусская власть 25 лет «с любовью и трепетом» относится к сельскому хозяйству, – я считаю, заслуживает всяческого одобрения.

Кстати, Европейский Союз в гораздо большей степени поддерживает свое сельское хозяйство. И если мы в лучшие времена оказывали субсидии около 200 долларов на гектар сельхозугодий, то в Европе было раза в три больше.

Ни журналист АТН, задававший вопрос, ни Александр Лукашенко почему-то не говорят о том, какой ценой нам дается эта поддержка сельского хозяйства? И почему она влечет за собой не повышение эффективности, а, наоборот, усугубляет финансовую ситуацию и делает всю отрасль убыточной? Это то, за что я лично критиковал и критикую политику президента.

Замечу, я лично не встречал экспертов, которые говорили бы, что нам не надо заниматься сельским хозяйством *(да и есть ли такие вообще?* – **Ред.**). Но слышал другие мнения: если вбухивать средства в сельское хозяйство в том виде, в котором оно сейчас находится, то, конечно, лучше тогда покупать продукты – это будет во всех отношениях по-государственному. Проблема в том, что государственная опека СПК (а если прямо говорить – колхозного производства) на самом деле ведет к огромным затратам, речь о миллионах, если не о миллиардах долларов! А отдача – мизерная!

Сейчас предпринимаются очередные меры по оздоровлению сельского хозяйства, но на самом деле лучше все равно не станет. Потому что на селе **нет хозяина!**

### А в Литве все равно больше!

– Наши идеологи и пропагандисты любят называть красивые цифры урожайности, но при этом умалчивают, сколько собирают наши соседние страны того же зерна, и какая у них урожайность, – *обращает внимание Ярошук.* – Например, в той же Литве, где нет колхозов, где президент не выезжает пахать и сеять, где есть хозяин на земле, количественные показатели выше, чем у нас. И урожайность выше. Это тоже ответ на вопрос, к чему мы пришли в результате того, что в свое время сделали ставку на сохранение колхозов (изменение вывесок – не в счет). Ни вы, ни я и даже не президент – никто не будет больше заботиться об общественном, чем о своем собственном! Лукашенко ведь арбузы, морковь и картошку не на колхозном поле выращивает, а на своем приусадебном участке. И я могу представить, что он с большой любовью относится к матушке-земле. И это нормально, когда человек думает о себе, своей семье, своей собственности.

### «Все вокруг колхозное – все вокруг мое»

– Как говорил Бенджамин Франклин, «*Мое – лучше, чем наше*», – *рассуждает Ярошук.* – И мне жаль, что президент до сих пор не проникся этой простой человеческой мыслью. Ему надо было в первый же год пребывания у власти положить конец этому колхозному строю. И сегодня мы имели бы уже совсем другое сельское хозяйство, да и Лукашенко не нужно было бы совершать бесконечные рейды по полям нашей горячо любимой родины. Но он избрал другой путь. И продолжает настаивать на том, что наша политика верная, и что если власть не будет заниматься сельским хозяйством, то завтра потеряем половину рабочих мест. Это все не более чем подмена понятий, нежелание признавать очевидные истины.

Половинчатые меры не сработают. Нужно признать частную собственность, в том числе и на землю в сельском хозяйстве. Сегодня все акции СПК находятся в руках исполкомов, и это тоже свидетельствует как раз о том, что у нас нет хозяина на земле…

**Марина КОКТЫШ.**

ЛІЧБА ДНЯ

## 60 тон марожанага

*Прыблізна столькі ў гарачы дзень у Мінску купляюць марожанага.*

Пра гэта паведамілі агенцтву «Мінск-Навіны» ў Галоўным упраўленні спажывецкага рынку Мінгарвыканкама.

Фота Віктара ТАЛОЧКІ (sputnik.by).

ПАД ГРАДУСАМ

## На наступным тыдні спёка паменшае

*Сіноптыкі абяцаюць камфортную тэмпературу, але навальніцы*

***У нядзелю***, 5 жніўня, кароткачасовыя дажджы з навальніцамі прагназуюцца толькі ўдзень у асобных раёнах краіны. Уначы тэмпература паветра будзе 13–19 градусаў цяпла, удзень – ад 24 да 30 са знакам плюс.

***У панядзелак*** атмасферны фронт з Балтыйскага мора прынясе ў асобныя раёны Беларусі кароткачасовыя дажджы, навальніцы, якія месцамі будуць суправаджацца парывістым ветрам. Уначы тэрмометр пакажа +12...+18 градусаў, удзень – ад 22 градусаў цяпла па поўначы да 28 градусаў па поўдні.

***У аўторак***, 7 жніўня, пераважна па поўначы Беларусі пройдуць кароткачасовыя дажджы, магчымы навальніцы. Уначы прагназуецца 11–17 градусаў са знакам плюс, удзень – 20–25 цяпла. Па паўднёвым захадзе краіны чакаецца да +27 градусаў.



З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Алена АНІСІМ: «Думаю, людзей назбіраецца!»

*На падрыхтоўчыя курсы ў Беларускі нацыянальны ўніверсітэт імя Ніла Гілевіча пакуль не запісалася ніводнага чалавека.*

Як вядома, установа прайшла дзяржаўную рэгістрацыю, і зараз ідзе праца над тым, каб атрымаць ліцэнзію. Тым часам з верасня пачынаюцца падрыхтоўчыя курсы для вучняў старэйшых класаў (10–11-я класы), студэнтаў, а таксама для ўсіх, хто хоча ўдасканаліць свае веды і падрыхтавацца да цэнтралізаванага тэсціравання і паступлення ў ВНУ па гісторыі Беларусі, матэматыцы, фізіцы, хіміі, беларускай, англійскай, нямецкай і (пры наяўнасці попыту) французскай мовах.

“Народная Воля” раней паведамляла, што на курсах, якія будуць доўжыцца 3 месяцы, заняткі будуць праходзіць два разы на тыдзень па тры гадзіны на дзень. На курсах працягласцю шэсць месяцаў заняткі будуць праходзіць раз на тыдзень таксама па тры гадзіны на дзень.

Аднак, як высветлілася, на сённяшні дзень няма ніводнай заяўкі на курсы.

*“Зараз толькі закончылася прыёмная кампанія ў ВНУ, летам многія раз’ехаліся на адпачынак, таму пакуль і няма актыўнасці,* – тлумачыць сітуацыю старшыня Таварыства беларускай мовы **Алена Анісім**. – *Думаю, што народ актывізуецца ў гэтым месяцы, і на курсы людзей назбіраецца”.*

Са слоў Алены Анісім, калі ўніверсітэт атрымае ліцэнзію да красавіка наступнага года, то зможа аб’явіць набор ужо ў 2019 годзе.

**Віктар ШПАК.**

АФІЦЫЁЗ

## Як сустрэцца з Уладзімірам Макеем?



*Шэраг міністраў у жніўні правядуць сустрэчы з грамадзянамі. Сярод іх – міністр замежных спраў Уладзімір Макей.*

*Запланавана, што Макей адкрые грамадскую прыёмную 22 жніўня.*

Міністр спорту і турызму **Сяргей Кавальчук** прыме ўсіх жадаючых 8 жніўня.

На 10 жніўня запланавана сустрэча з грамадзянамі міністра антыманапольнага рэгулявання і гандлю **Уладзіміра Калтовіча**, на 15-е – міністра сельскай гаспадаркі і харчавання **Леаніда Зайца.**

Прыём у міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі **Аляксандра Церахава** запланаваны на 31 жніўня.

Дарэчы, прыём міністрамі і старшынямі дзяржаўных камітэтаў вядзецца, як правіла, па папярэднім запісе.

**Вера ВІР.**

ИЗ ЗАЛА СУДА

## Медсестру из хосписа осудили на три года лишения свободы

*Приговор вынес суд Партизанского района Минска.*

Во время допросов в суде медицинская сестра Больницы паллиативного ухода «Хоспис» признала свою вину и рассказала, что во время дежурств получала наркотические средства и психотропные вещества для введения инъекций больным по назначению врача.

«*В случае, если больной умирал до введения лекарства, которое уже было набрано в шприц, она указывала иное время смерти, а набранное наркотическое средство или психотропное вещество в шприце забирала себе,* – говорится в судебном пресс-релизе. – *Всего имело место пять таких случаев. По месту ее жительства и были обнаружены четыре шприца с диазепамом и один шприц с морфином.*

*Также были случаи, когда родственники умерших дома пациентов приносили выписанные ранее больным наркотические средства и психотропные вещества, а она данные наркотические средства и психотропные вещества также забирала себе*».

Дома при обыске у медсестры обнаружили блистеры с наркотическими и психотропными таблетками: «*Она похищала и приобретала их для себя с целью последующего лечения в связи с диагностированием у нее самой онкологического заболевания*».

НОВЫЕ ИМЕНА

## Им рукоплещет весь мир

*4 августа в Верхнем городе на фестивале «Классика у Ратуши» выступят известные за рубежом молодые музыканты из Беларуси.*

Откроет очередную «классическую субботу» у Ратуши пианист **Кирилл Кедук**. В 30 лет он является лауреатом более 15 международных конкурсов и выступает на самых престижных концертных площадках мира. Аккомпанировать Кедуку будет лауреат международных конкурсов, стипендиат Специального Фонда Президента Республики Беларусь по поддержке талантливой молодежи, скрипач **Павел Батян**. В начале 2010-х он был солистом в оркестре Philharmonieder Nationen (Гамбург). В настоящее время работает в Белорусском государственном камерном оркестре.

«*Эти музыканты не так часто бывают на родине и больше выступают за рубежом, где собирают полные залы*», – *отмечает* начальник отдела корпоративных коммуникаций velcom **Николай Бределев**.

*В программе субботнего концерта также выступление* ансамбля «Минск-классик».

Начало концерта – в 20.30. Вход на «классические субботы» свободный.

**Алина ВЕТРОВА.**



СУД

## «Мы так і не зразумелі прычыну нападу на нас…»

*Судовы працэс па справе аб хуліганскім нападзе на эканаміста Сяргея Чалага, фатографа Аляксандра Васюкевіча і грамадскага актывіста Анатоля Сакалоўскага пачнецца 6 жніўня ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска.*

Нагадаем, што інцыдэнт адбыўся ў самым цэнтры сталіцы. Сяргей Чалы апынуўся ў Бальніцы хуткай дапамогі з разбітым тварам, зламаным носам і чэрапна-мазгавой траўмай.

Некаторыя звязвалі інцыдэнт з прафесійнай дзейнасцю Чалага, але сам ён распавёў “Народнай Волі”, што, хутчэй за ўсё, гэта не так.

Праз нейкі час інцыдэнт пракаментаваў і міністр унутраных спраў **Ігар Шуневіч**.

“*Факт застаецца фактам – банальная п’яная бойка дзвюх кампаній*, – распавёў ён. – *Злачынства ўдалося раскрыць па гарачых слядах, дзякуючы запісам з камер відэаназірання*”.

У бальніцы Сяргею зрабілі аперацыю, пасля чаго ён працягваў лячэнне ў неўрапатолага і праходзіў курс рэабілітацыі.

Была распачата крымінальная справа, чацвярых чалавек затрымалі, але ў якасці абвінавачаных фігуруюць два чалавекі.

*“Было заяўлена, што маецца відэазапіс бойкі з камер відэаназірання, але, наколькі мне вядома, гэты запіс не далучаны да справы,* – кажа адзін з пацярпелых **Анатоль Сакалоўскі**. – *На судзе пабачым, як спрацавала следства, і якія будуць паказанні тых, хто нас збіваў. Мы так і не зразумелі прычыну нападу”.*

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

**КРЫМІНАЛ**

## Прызнаўся ў атрыманні хабараў

*Былы намеснік урача Мінскай абласной дзіцячай бальніцы **Аркадзь Патапаў,** працэс па справе якога 2 жніўня пачаўся ў судзе Мінскага раёна, прызнаў сябе вінаватым у атрыманні хабараў.*

Пра гэта журналістам паведаміў яго адвакат Руслан Якаўлеў, перадаюць naviny.by.

У ходзе расследавання ўстаноўлена 24 эпізоды атрымання хабараў – на суму 46 тысяч рублёў.

*«Абвінавачаны ў поўным аб’ёме прызнае сваю віну. У зробленым чыстасардэчна раскайваецца. Ён раней не судзімы. Мае на ўтрыманні двух непаўналетніх дзяцей, шматдзетны бацька. Прымае меры да поўнай кампенсацыі шкоды»*, – распавёў Якаўлеў.

**ТОЧКА ЗРЕНИЯ**

Александр ФЕДУТА

# Память, кладбища и 250 рублей

В моем родном Гродно отстранили от работы семью, прибиравшую старое еврейское кладбище и открывавшую туристам со всего мира ворота. Сейчас ворота закрыты. У городского жилищно-коммунального хозяйства не нашлось денег. Больших денег. Целых 250 рублей. Так написал гродненский информационный интернет-ресурс Hrodna.Life, точность которого до сих пор меня не подводила.

Мне не раз доводилось писать о гродненских кладбищах, в том числе и обращаясь к читателям «Народной Воли». Чуть менее половины своей жизни я прожил в Гродно, и тема кладбищ для меня не чужая. В последний раз я был на них прошлым летом, в том числе на кладбище, где похоронены младшая сестра моей мамы и ее муж, мой крестный. Тетя Галя и Николай Степаныч. Мне хотелось рассказать крестному о том, что я наконец защитил докторскую диссертацию – и вообще, о жизни.

Кладбище, где лежат советские люди без различия вероисповеданий и национальностей, казалось ухоженным: службы постарались. Вокруг главной аллеи были спилены старые деревья, как раз и свидетельствовавшие о том, что здесь, в тени, можно обрести вечный покой. Сейчас солнце жарило так, будто спиливавшим хотелось разбудить тех, кто спит вечным сном: вставайте, идите в тень. Но вот промежутки между могильными решетками заросли кустами так густо, что прорваться сквозь них можно было разве что ценой рубашки или брюк. То есть каждая могила в отдельности убиралась родственниками (моя двоюродная сестра известна в семье любовью к порядку, потому и на могиле ее родителей чистота идеальная – тем паче, что листве взяться неоткуда, деревьев нет). Но до могилы нужно дойти. А как?

Это было в июле. А в октябре я попал на старое кладбище в Лодзи. Вернее сразу на три кладбища – еврейское, католическое и православно-лютеранское. Мой старший друг, профессор Анджей де Лазари, специально привез туда участников проходившей в Лодзи научной конференции.

Это впечатляющее зрелище – старый некрополь. Первым было лежавшее на отшибе еврейское кладбище. Огромные мавзолеи в честь коммерсантов, когда-то финансировавших в Лодзи первую трамвайную линию, первую общедоступную больницу, первую частную школу для девочек. И рядом – скромный обелиск в честь женщины-еврейки, Героя Советского Союза, погибшей здесь. Студенты время от времени приходят сюда, чтобы навести порядок и убрать палую листву: кроны деревьев смыкаются так густо, что на кладбище царит полусумрак. Студенты приходят сюда просто потому, что здесь похоронена мать главного поэта в истории Лодзи – Юлиана Тувима. Их никто не заставляет. Несколько поколений студентов ухаживают за этой могилой, а заодно за всем (!) кладбищем. Деревья здесь стараются не спиливать без нужды. Памятники поддерживают городские власти: это важный экскурсионный объект. У входа – касса, в ней продают билеты, а заодно в специальном небольшом зале читают лекции по истории старой еврейской Лодзи. Не знаю, хватает ли этих денег, но мне кажется, что все-таки нет.

Я не могу до сих пор понять, как оно уцелело, это старое еврейское кладбище в захваченном фашистами польском городе. Наверное, с мертвыми они старались не воевать?

На православно-лютеранском кладбище похоронены русские и немцы. Те, кто служил здесь и занимался коммерцией в имперские времена. Вот могила жандармского полковника и солдат, убивших восставшими рабочими во время событий 1905 года. А несколько рабочих похоронены на католическом кладбище. Деревьев здесь значительно меньше, чем на еврейском кладбище, но попадаются и столетние. Всем могилам обеспечен уход. Власть поддерживает те захоронения, где не известны потомки покоящихся. За могилой своего прадеда профессор де Лазари ухаживает сам. Он даже написал книгу о своих предках и издал за свой счет – для своих внуков и правнуков. Чтобы помнили.

Там есть совершенно трогательные могилы. Мужчина и женщина покоятся у калитки. Она – на православно-лютеранской стороне, он – на католической. Похоронены каждый в соответствии с собственной верой, но так, чтобы не расстаться и после смерти.

По кладбищу ходят экскурсии. Где еще узнаешь о людях старой Лодзи, как не здесь?

Это стоит дороже 250 белорусских рублей в месяц. Значительно дороже. Потомки, например, нескольких лодзинских градоначальников не могут прилететь сюда даже раз в год: кто в Австралии, кто в Америке. Но от них это и не требуется. Помнить нужно обо всех.

Ресторанов и распивочных рядом нет. По крайней мере вблизи от кладбищенских оград.

Через Лодзь прошли две мировые войны и две революции – как и через мой Гродно. Но там не делают вид, будто не в состоянии найти 250 рублей. Там это было бы постыдно. Дело памяти – это дело чести. Всех народов, без исключения, до сих пор живущих в многонациональной Лодзи. Ибо куда мы денемся от могил наших предков?

**ЖУРНАЛІСТ ВЫЕХАЎ НА МЕСЦА**



# Дом-забойца пасярод Навагрудка

Зірнеш з навагрудскага замчышча ўніз – ажно дух займае ад галавакружнай вышыні. Старажытны мураваны касцёл, у якім вянчаўся кароль Ягайла і хрысціўся Адам Міцкевіч, здаецца цацачным папяровым караблікам, які прыбіла да схілу бурлівая рака часу. Велічныя замкавыя вежы, абвеяны вятрамі стагоддзяў храм… А ля іх падножжа прыляпіліся старыя драўляныя хаты, з кветнікамі і агародчыкамі, з хлеўчукамі і дрывотнямі. Так на плошчы аднаго футбольнага поля сышліся колішняя магутная сталіца Вялікага Княства Літоўскага і патрыярхальная заходнебеларуская вёска. Да замчышча пад’язджаюць аўтобусы з турыстамі, экскурсаводы расказваюць ім пра былую веліч Навагрудка, пра вялікіх князёў і залаты век у беларускай гісторыі, а праз нейкіх сто метраў людзі жывуць ледзь не ў веку каменным. У хатах, што нагадваюць савецкія часовыя баракі, – ні вады, ні цэнтральнага ацяплення, ні газу. Як і трыста гадоў таму, трэба паліць у печках, цягаць здалёку ваду, мыцца ў начоўках.

У асабліва бядотным становішчы апынуліся жыхары дома №10 па прылеглай да замчышча вуліцы 1 Мая. Двухпавярховы драўляны будынак узведзены яшчэ “за польскім часам”, у 1938 годзе (па другіх звестках, яму больш за 100 гадоў), глядзіцца на першы погляд ніштавата. Але варта падысці бліжэй… Ніжнія бярвенні струхлелі і праселі, з-за чаго ўвесь дом падазрона нахіліўся. Дзве мураваныя калоны, што падпіраюць лядашчы балкон, аказваецца, таксама драўляныя, тынк з іх абвальваецца. Той аварыйны балкон пагрозліва навісае над уваходнымі дзвярамі – хоць ты каску надзявай, перш чым за клямку тузаць. У сценах пад шалёўкай утварыліся скразныя дзіркі – летам там восы жывуць, зімой мароз шчэміцца. Восенню жыхары аббіваюць вокны поліэтыленавай плёнкай – праз іх свішча вецер. У падмурку шчыліны велічынёй з кулак – таксама раздолле скразнякам…

Беларусы – народ цярплівы. Навагрудцы – не выключэнне. Дзесьці штосьці падмазвалі, падрамантоўвалі і жылі. Але кавалкі адсырэлай столі сталі падаць проста на галовы... Дом ператварыўся ў патэнцыяльнага забойцу.

Жыхары дома (у ім жыве 3 сям’і) яшчэ ў 2013 годзе звярнуліся з законнай прэтэнзіяй да старшыні Навагрудскага райвыканкама Анатоля Маркевіча. Той паабяцаў зрабіць капітальны рамонт. Але калі спецыялісты падлічылі, у што ён абыдзецца, то выйшла, што танней збудаваць новы дом.

Даведзеныя да адчаю жыхары заказалі экспертызу фізічнага стану дома ў ТАА “Судова-экспертная калегія” (Мінск), якая мае на такія працы дзяржаўную ліцэнзію. Прыехалі эксперты, усё агледзелі, абмацалі, сфатаграфавалі, абмералі і 5 кастрычніка 2015 года прыслалі афіцыйнае заключэнне – “дом №10 зношаны на 71,6% і не прыгодны для пражывання”.

Навагрудскія чыноўнікі заключэнне мінскіх экспертаў назвалі “фількінай граматай” і тэрмінова прыслалі другіх спецыялістаў – з Гродзенскага агенцтва па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельным кадастры. Тыя таксама ўсё агледзелі, абмацалі, сфатаграфавалі, абмералі і вынеслі свой вердыкт – у доме жыць можна, зношанасць усяго 57%.

Але жыхары дома, пераважна пенсіянеры, жывуць не ў працэнтах, якія можна змяншаць-дадаваць, а ў трухлявых сценах, на якіх зімою шэрань паблісквае. Зразумела, што спешна зроблены касметычны рамонт (сям-там памянялі шалёўку ды залілі мантажнай пенай шчыліны паміж згнілых бярвенняў) праблемы не вырашыў, і дом больш утульным не стаў.

Адзін з жыхароў дома, Васіль Іосіфавіч Баброўскі, вырашыў прыватызаваць сваю кватэру. Адпаведныя навагрудскія службы вызначылі цану – 63.248.600 недэнамінаваных рублёў (на 2 снежня 2014 года). Пакуль гаспадар кватэры збіраўся з думкамі, ці варта прыватызаваць жылплошчу ў вартым жалю доме, тыя самыя службы паведамілі новую цану – ужо 105.078.000 рублёў! Адкуль яна ўзялася? Выходзіць, чым больш дом трухлее, тым больш даражэе…

Карэспандэнта “Народнай Волі” ў Навагрудку сустрэлі, як апошнюю надзею. Усе прысутныя ў доме жыхары пачалі наперабой расказваць пра беспаспяховае змаганне з мясцовымі чыноўнікамі. Пытаюся ў Святланы Аляксандраўны Баброўскай, як яны выжываюць узімку? У голасе жанчыны адчуваецца боль і крыўда на мясцовую ўладу, якой напляваць на людзей:

“Мы печкі палім двойчы на дзень, але ўсё роўна калі на дворы мароз, у калідор не выйсці. Падлога – не стаць босымі нагамі. Увесь дом прадзімаецца, гуляе вецер. Вы самі бачыце, і сцены, і вокны, і дзверы – гнілыя. Так і ходзім – у бурках, у ватоўках, па дзве пары шарсцяных шкарпэтак нацягваем, а што рабіць? Спальваем за зіму дзве машыны дроў, а толку – ніякага. Тут жа падлогі няма. Холадам цягне адусюль. Так і жывём – а куды падзецца? Нам спачатку абяцалі зрабіць мадэрнізацыю, а потым перакруцілі на капітальны рамонт (яго, дарэчы, у доме не рабілі ні разу). Урэшце прызналі, што танней будзе збудаваць новы дом. Я ўсё жыццё адпрацавала на аўтабазе №10, на заводзе газавай апаратуры, а цяпер – хоць кладзіся і жыўцом замярзай!”

Святлана Аляксандраўна вядзе мяне па хісткай лесвіцы на гарышча, паказвае падпёртыя свежымі брусамі кроквы. Я чапаю нагою бэльку – паточаная шашалем, яна лёгка крышыцца. Паўсюль стаяць ёмістасці для вады – страха працякае.

Спускаемся долу, і нас на падворку пераймае Георгій Іванавіч Шараў, інвалід 2-й групы: “У мяне ў кватэры зімою ўсяго 10 градусаў цяпла. Ні печка, ні масляны радыятар не дапамагаюць. Вось тут у падмурку дзірка была вялізная – аж галава пралазіла, вецер пад падлогай гуляў. А я ж дыябетык, ужо 36 гадоў жыву на інсуліне”.

Не адзін Гаўрыла ў Полацку, не адзін Маркевіч у Навагрудку. Цікаўлюся ў сваіх суразмоўцаў, ці шукалі яны заступніцтва ў больш высокіх начальнікаў? Пенсіянер Васіль Баброўскі, які мае 50 гадоў працоўнага стажу, аж падскоквае з лаўкі ад абурэння:

“Да каго мы толькі не звярталіся! У старшыні Навагрудскага райвыканкама Анатоля Маркевіча былі. У кіраўніка Дзяржкантролю па Гродзенскай вобласці, потым памочніка прэзідэнта Сяргея Раўнейкі былі. І не адзін раз, а тройчы! І ў намесніка старшыні аблвыканкама Уладзіміра Дзяжко былі, калі ён тут ладзіў прыём. І яшчэ аднаму памочніку прэзідэнта – Уладзіміру Даманеўскаму – пра нашу бяду расказвалі.

А колькі лістоў напісалі! Толькі Аляксандру Лукашэнку – не менш як дзесяць! Так на яго спадзяваліся… І што? Ніхто не хоча па-чалавечы разбірацца. Прыходзяць адказы-адпіскі з Адміністрацыі прэзідэнта за подпісам дробных чыноўнікаў. І куды? У Навагрудскі гарвыканкам! Каб там разбіраліся. Мы на выканкам скардзімся, што ён нічога не робіць, а з Мінска нашы скаргі перасылаюць у той самы выканкам. Замкнёнае кола. У нашым доме пяць кватэр, дзве нежылыя. Тры сям’і жывуць – сем чалавек. І колькі нам яшчэ пакутаваць? Я ж вадзіцелем адпрацаваў роўна паўвека, стаў інвалідам 2-й групы. А мне ў выканкаме ледзь не кажуць – нам напляваць на ваша пасведчанне. Да людзей ставяцца, як да быдла…”

Відаць, што пяцігадовае змаганне за свае чалавечыя правы далося маім суразмоўцам у знакі. Не, у іх не апускаюцца рукі, але – куды іх прыкласці? Да каго апеляваць? “Можа, “Народная Воля” падкажа, што нам рабіць? – з адчаем у голасе пытаюцца мужчыны. Што я ім, спрацаваным інвалідам, магу падказаць? Перагарадзіць вуліцу 1 Мая, прыкаваўшыся кайданкамі да плоту? Захапіць у закладнікі аўтобус варшаўскіх турыстаў, што прыязджаюць у Навагрудак панастальгаваць па “крэсах всходніх”? Не дарадчык я тут і не падказчык.

Часткова можна зразумець і навагрудскія ўлады. У горадзе амаль 50 аварыйных дамоў, дзе знайсці грошы на перасяленне ўсіх жыхароў? Праблема. І чамусьці, не вырашаючы яе, мясцовая ўлада стварае праблемы дадатковыя. Аказваецца, жыхары дома №10 вымушаны плаціць за камуналку – як у гарадской кватэры. Для той жа Святланы Баброўскай сума 60 рублёў адчувальная. Прыблізна столькі плацяць у Навагрудку жыхары двухпакаёвых кватэр з усімі выгодамі. А ў нашых гаротнікаў – ні вады, ні газу, ні каналізацыі. І пенсія ледзь даходзіць да 300 рублёў, ледзь на жыццё хапае. Нездарма кажуць, што багатыя жывуць за кошт бедных. І ўжо поўным абсурдам выглядае тое, што за ваду з іх бяруць плату па двайным тарыфе, бо на вулічнай калонцы… не ўсталяваны лічыльнік. Няўжо і з гэтай драбязой спадар Анатоль Маркевіч не ў сілах разабрацца?

Такім чынам, жыць у доме №10 немагчыма. А будаваць новае жыллё для яго жыхароў – незаконна. Ну, раз дзяржаўная камісія прызнала будынак прыгодным для пражывання. Што з усяго гэтага можа атрымацца? Не дай Божа той трагедыі, якая здарылася з адной знакамітай кінабабуляй, што за сваё жыццё знялася толькі ў адной караценькай ролі. Памятаеце кранальныя кадры з фільма “Каліна красная” – звычайная вясковая бабка расказвае пра сваіх загінуўшых сыноў? Яна так арганічна ўвайшла ў кінастужку, упрыгожыла яе, што рэжысёр Васіль Шукшын пасля трыумфальнай прэм’еры вырашыў аддзячыць сваёй гераіні. Сабраў грошай, накупіў падарункаў, прыехаў, а яму кажуць – памерла бабка Яўфім’я, зімой на халоднай печы замерзла…

Дык тое адбылося ў глухой расійскай вёсцы на паўночнай Валагодчыне – скажаце вы. А нашы героі жывуць у цэнтры першай сталіцы ВКЛ, дзе сядзеў на троне князь Міндоўг. Па сведчаннях летапісцаў, дужа круты норавам быў. Не трываў бязладдзя ў дзяржаве. Пракраўся хтосьці ці клятваадступніцтва ўчыніў – князь таго адразу на дыбу пасылаў.

Дзякуй Богу, часы тыя змрочныя мінуліся. Спіць Міндоўг у зямлі, і напаўразбураныя вежы замка ягонага стаяць жалезнымі рэйкамі падпёртыя. Умеюць у нас у краіне спачатку дарэшты занядбаць, а потым падперці.

Так і з домам №10. Ён даўно струхлеў і вось-вось абрынецца, а чыноўнікі яго хочуць падрамантаваць-падперці і на жыхароў цыкаюць: сядзіце ў бу́дзе і чакайце, што будзе.

На жаль, нічога добрага ў гэтай сітуацыі быць не можа. Навагрудскія пенсіянеры з жахам чакаюць прыходу зімы…

**Міхась СКОБЛА.**
*Навагрудак–Мінск.*



Пенсіянеры-інваліды Георгій Шараў і Васіль Баброўскі каля свайго небяспечнага дома.



Аварыйны балкон над уваходнымі дзвярыма.

КАРТИНА ЖИЗНИ

# «Заревела я вместе с телятами…»



Хочу рассказать об одной памятной поездке.

Видавший виды автомобиль с четырьмя пассажирами в салоне и надписью «такси» на фонаре на крыше, ехал по автостраде Минск–Могилев. Рядом со мной на заднем сиденье – мужчина средних лет. Время от времени он доставал калькулятор, что-то считал, сосредоточенно думал. Еще один пассажир, о котором сказочный Карлсон сказал бы «мужчина в полном расцвете сил», не оставлял попыток завязать разговор с красивой белокурой женщиной, сидевшей впереди рядом с водителем.

Шутливый разговор шел попеременно то на русском, то на белорусском языках. Говорилось обо всем и ни о чем, перескакивая с темы на тему. Пассажирка бойко парировала остроты разговорчивого собеседника, легко переходя с русского на белорусский, когда надо было по ходу разговора ответить на фразу или афоризм, в зависимости от того, на каком языке к ней обращался собеседник. Причем русский язык пассажирки выдавал, что осваивала она его не в Беларуси. Твердое «г», характерные для центральной России слова типа «водица», «хлебушек», «давеча», которые редко услышишь в Беларуси, невольно вызывали любопытство – откуда красивая пассажирка родом и как попала сюда? Прямой вопрос никто, даже разговорчивый пассажир, соблюдая правила вежливости, не задавал. Так бы и осталась пассажирка со своей тайной, но как водится, помог его величество случай.

– Кто ж так обгоняет, лихач?! – вдруг громким голосом обратилась пассажирка к водителю.

– Будзе яшчэ кожны вучыць,– недовольно буркнул водитель, не отрываясь от дороги.

– Калі трэба, магу і павучыць! – ответила пассажирка. – Не один год за баранкой сидела.

– За што, відаць, і выгналі, – не успокаивался водитель.

– Да не выгнали, а сама с машины ушла, – услышали мы ответ.

А дальше последовал рассказ о красивой любви, которая заставила переехать из российского города в белорусскую деревню, о работе в колхозе водителем грузовика и событиях, заставивших поменять профессию.

– Ушла на пенсию уже не молодая работница фермы, которая ухаживала за телятами. Работа эта почетная, но не очень приятная – требует ежедневного раннего подъема и в выходной день кто-то должен тебя подменить. Такая же ситуация и на случай болезни. Это грузовик может молча пару дней подождать или больше, если надо. А телята живые и маленькие, они есть хотят каждый день.

Моя машина в это время была в ремонте. Председатель и предложил мне временно, пока подыщут постоянную работницу, поработать на ферме. Я и согласилась. Прошла неделя, мою технику починили, пора и прощаться с фермой. Но, как водится, возникли осложнения – парня-водителя на мою машину нашли, а на ферму желающих нет. Упросили меня еще неделю или несколько дней побыть на прежнем месте, пока найдут замену. Вторая неделя проходит, а новой работницы мне на замену нет. Тут и я запротестовала, хорошо или плохо это выглядело, со стороны виднее, а как закончилась вторая неделя – не вышла на ферму, раз мне была обещана замена.

Но надолго меня не хватило. Через сутки утром, когда отправила мужа на работу, а детей в школу, приходит председатель и просит покормить телят. Ну, я согласилась, один день – не неделя. Пришла я, а дальше была сцена, которую не могу до сих пор забыть. Окружили меня голодные телята, каждый норовит подойти поближе, руки лижут, ревут все, и я с ними заревела. Стою, утираю слезы, гляжу на их мордашки, а тут и председатель подходит и снова просит остаться. Не смогла я уйти. Так и остался водитель без машины и бросить эту работу уже не могу…

Вот такую историю мне пришлось однажды услышать в дороге. От всей души хочется пожелать счастья этой красивой и доброй, настоящей женщине!

**Михаил РАДКЕВИЧ.**
**Минск.**

ТАК ДУМАЮ...

# Шчаслівая будучыня – за навуковым патэнцыялам!

Калі ранкам едзеш по горадзе, прыемна бачыць людзей, якія спяшаюцца на працу. Значыць, горад яшчэ жыве, ці, можа, лепш сказаць, выжывае. Хаця з размоў са знаёмымі, суседзямі, у грамадскім транспарце вынікае, што рабочых месцаў усё менш і менш. Асабліва на прамысловых прадпрыемствах, дзе больш-менш прыстойная зарплата.

Напрыклад, у Гродне ў савецкія часы працавала буйнейшае ў горадзе прадпрыемства – прадзільна-нітачны камбінат. Зараз у яго велічэзных цэхах размясціўся рынак “Карона”, ідзе гандаль імпартнымі рэчамі. Некалькі тысяч жанчын апынуліся на вуліцы або перакваліфікаваліся ў гандлярак. Наогул, прыкмета нашага часу – гандаль. У горадзе пабудаваны і працягваецца ўзвядзенне гандлёвых устаноў. Прамысловага будаўніцтва зусім не разгледзіш. Калі няма заробкаў – з чым пойдзеш у гэтыя гіпермаркеты?

У апошні час значна павялічыліся чэргі на граніцы з Польшчай. Іншы раз на паездку ў суседнюю краіну прыходзіцца затраціць 8–10 гадзін. Туды вязуць нафтапрадукты і тытунёвыя вырабы, назад бытавую тэхніку, будаўнічыя матэрыялы і рознае другое. Многае там дзешавейшае, ды яшчэ мінус 18–20% “ваты”(падатак на дабаўлены кошт). На такія падарожжы затрачваецца многа нерваў, некаторыя мытнікі здзекуюцца з гэтых бедалаг. Але ж церпяць, бо трэба выжываць. Кожны эканаміст і не толькі скажа, што гэта вельмі дрэнна для нашай краіны. Яна паступова дэградзіруе, пераўтвараецца ў другарадную з выжываннем у тым ліку і за кошт кантрабанды тытунём. Фірма “Табак інвест” працвітае.

Многія грамадзяне Беларусі з’ехалі на працу за мяжу. У гэтых адносінах мы на трэцім месцы пасля Малдовы і Украіны. Не трэба нікому даказваць, што гэта таксама вельмі дрэнна для нашай дзяржавы. Выязджаюць, вядома, найбольш актыўныя, прадпрымальныя. Шмат хто не збіраецца вяртацца назад. Насельніцтва краіны змяншаецца.

Чаму так адбываецца і што трэба рабіць?

Патрэбна сістэмная перабудова, раздзяржаўленне прадпрыемстваў і гэтак далей. Прыклады такой перабудовы побач – Польшча, Літва, Чэхія і другія краіны. Яны яшчэ не дасягнулі ўзроўню перадавых краін, але ж мы ўжо цяпер тэлевізары, пыласосы возім ад іх. Ды і зарплаты, пенсіі ў грамадзян Польшчы значна большыя, чым у нас. У Беларусі, можна сказаць, адсутнічае сярэдні клас, які займае вельмі важнае месца ў развітых краінах. Няма рынку каштоўных папер, у тым ліку акцый. Патлумачу, што я пад гэтым разумею. Напрыклад, у мяне ёсць ідэя, перспектыўнае вынаходніцтва, але няма грошай для яго рэалізацыі. У другіх людзей ёсць зберажэнні (па данных статыстыкі даволі значныя), якія яны захоўваюць на дэпазітах або ў кватэрах. Дзяржава і яе законы павінны дапамагчы сустрэцца гэтым двум складнікам бізнесу. Такім чынам можна здзейсніць вытворчасць усякіх дробязяў, якія завозяцца з Кітая і суседніх краін, рэалізаваць сотні і тысячы патэнтаў на вынаходніцтвы, якія мёртвымі вісяць на сценах канферэнц-залаў і кабінетаў універсітэтаў і НДІ. Карысць будзе і для Беларусі, і для трымальнікаў акцый, за якія будуць выплачваць дастойныя дывідэнды, вядома, у залежнасці ад паспешнасці праекта.

Хачу паказаць яшчэ адзін напрамак выхаду з крызісу і паспяховага развіцця. Ён мне больш блізкі, бо ўсё жыццё займаўся навуковай і адукацыйнай працай. Думаю, не адкрыю сакрэту, калі скажу, што ў наш час новыя тэхналогіі, інавацыі, камп’ютарныя праграмы з’яўляюцца асновай прагрэсу, дабрабыту і багацця нацыі, краіны. Прырода не абдзяліла нашых суайчыннікаў інтэлектам і талентамі. Доказам гэтаму могуць быць высокія месцы, якія займаюць нашы школьнікі і студэнты на міжнародных конкурсах і алімпіядах. Высока ацэньваюцца нашы праграмісты. Ускосным пацвярджэннем сказанага можа быць выказванне амбасадара Ізраіля аб тым, што многія кіраўнікі ўрада, генералы, навукоўцы яго краіны з’яўляюцца выхадцамі з Беларусі.

У мяне ёсць нават свая тэорыя на гэты конт. Усім вядома, што ў Нарвегіі, Швецыі, Фінляндыі людзі жывуць больш багата, чым у Грэцыі, Партугаліі, Іспаніі. І гэта на бедных на ўраджай, камяністых глебах, з неспрыяльным кліматам, працяглай халоднаю зімою. У Італіі ў адной краіне заметная розніца ў развіцці і ўзроўні жыцця на поўначы і на поўдні краіны. А параўнайце тую ж Еўропу і Афрыку. Чаму так атрымліваецца? На поўначы чалавеку з пакалення ў пакаленне трэба было думаць і клапаціцца аб тым, як перазімаваць, аб цёплай вопратцы і жыллі, запасах яды і г.д. У паўднёвых рэгіёнах пражыць было значна лягчэй, менш патрабавалася розуму і розных высілкаў. Нашым продкам ліцвінам прыходзілася яшчэ цяжэй, чым другім. Вельмі часта даводзілася ахоўваць сваю Радзіму ад нападаў: з усходу – маскоўскіх князёў, з захаду – крыжакоў, з поўначы – шведаў, з поўдня – татара-манголаў. Усё гэта патрабавала немала розуму, а часам і цярпення. Вось адкуль у нас апошняе.

У нашай краіне на сённяшні час ёсць самы важны складнік для росквіту – адукаваныя, таленавітыя людзі, асабліва моладзь. Вось сюды і трэба ўкладваць грошы. Фінансаваць навуковыя даследаванні, плаціць прыстойную зарплату навукоўцам, забяспечыць дастойную старасць адпаведнай пенсіяй.

Атрымліваючы мізэрную зарплату, навукоўцы, кандыдаты і дактары навук, каб пракарміць сем’і, вымушаны выконваць не зусім навуковую працу. Напрыклад, заключаць кантракты і праводзіць даследаванні чужых прэпаратаў, часцей замежных фірм, з мэтай іх рэгістрацыі ў Беларусі. Гэта яшчэ больш-менш блізка да навукі. Многім такіх тэм не стае і яны зарабляюць па-рознаму, далёка ад навукі. А каб атрымаць значныя навуковыя дасягненні, як вядома, трэба пагрузіцца ў тэму поўнасцю. У вольны час вывучаць навуковую літаратуру, а не таксаваць ці рамантаваць бытавую тэхніку.

Цяпер мы хвалімся экспартам ІТ-паслуг. Гэта не зусім добра, таму што нашы праграмісты працуюць не столькі на сябе, колькі на “дзядзьку Сэма”, дапамагаюць яму, а не нашым прадпрыемствам стаць больш багатымі. Я не агітую за савецкую ўладу, але ў тыя часы навукоўцаў больш-менш паважалі. У васьмідзясятыя гады мінулага стагоддзя, калі я пачынаў працаваць у ВНУ, аклад дацэнта быў 320 рублёў, у маёра міліцыі прыкладна 250, сярэдняя па краіне зарплата 150 рублёў. Цяпер аклад дацэнта менш двухсот, а з усімі дабаўкамі за навуковую ступень і прэміямі налічваецца каля шасцісот рублёў. Пенсія прафесара ў 380 рублёў мала чым адрозніваецца ад пенсіі прыбіральшчыцы.

Сярэдняя па краіне зарплата, як некалькі разоў адзначалася ў газеце “Народная Воля”, звыш дзевяці соцень рублёў. А ў маёра міліцыі, вядома ж, больш за тысячу. Вось такая арыфметыка. І маладыя таленавітыя людзі пры выбары напрамку будучай дзейнасці ведаюць гэтыя лічбы і не ідуць у навуку. Краіна, якая губляе свой патэнцыял, не будзе мець шчаслівай будучыні.

**Васіль МІХАЛЬЧЫК,**
**кандыдат сельскагаспадарчых навук.**
*Гродна.*

УСМЕШКА МАСТАКА




Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

Як раней паведамлялася, 40-гадовы бабруйчанін п’яным спаў на шпалах, калі над ім праехаў лакаматыў і 30 грузавых вагонаў.

Машыніст прымяніў экстраннае тармажэнне, заўважыўшы мужчыну. Лакаматыўная брыгада разбудзіла яго і дапамагла выбрацца з-пад саставу. На мужчыну склалі адміністрацыйныя пратаколы.

РЭЗАНАНС

# Паэт Зніч заслугоўвае павагі

З цікавасцю прачытаў у “Народнай Волі” за 20 ліпеня гутарку Міхася Скоблы з паэтам Знічом (ён жа – праваслаўны манах Іаан, насельнік Жыровіцкага Свята-Успенскага манастыра).

Хацеў бы выказаць падзяку галоўнаму рэдактару Іосіфу Сярэдзічу за адкрытую год таму на старонках газеты рубрыку “Дыялогі”, бо яе гасцямі, як правіла, выступаюць неардынарныя і аўтарытэтныя асобы. І гутаркі з імі – выдатны спосаб прыцягнуць увагу чытачоў да самых вострых і актуальных праблем.

Таму мяне вельмі здзівіў дужа крытычны і безапеляцыйны водгук на згаданую публікацыю паэтэсы Галіны Каржанеўскай “Паэт Зніч – асоба неадназначная...”. На яе думку, нельга было выдзяляць столькі газетнай плошчы для Зніча, бо ён “прадстаўнік рэакцыйнага крыла праваслаўнай царквы і “русского мира”.

Пабойцеся Бога, шаноўная Галіна Анатольеўна! Як Вы можаце залічваць да прыхільнікаў “русского мира” фактычна свайго калегу па Саюзе беларускіх пісьменнікаў, які ніколі не здраджваў нашаму роднаму беларускаму слову? Зніч піша свае кнігі і артыкулы толькі па-беларуску, што ўжо, пагадзіцеся, учынак у сённяшніх рэаліях Беларускай Праваслаўнай царквы. Ведаю, з якой павагай да Зніча ставяцца і навучэнцы Жыровіцкай духоўнай семінарыі, і шматлікія вернікі, і паломнікі, якія прыязджаюць у Жыровічы з розных куткоў Беларусі. Дарэчы, эскурсіі для іх манах Іаан таксама праводзіць толькі на роднай мове. Лічу, што гэта і ёсць шчырае і ахвярнае служэнне Беларушчыне.

Што тычыцца поглядаў Зніча на пэўныя пытанні гісторыі, палітыкі і літаратуры, то ён мае права іх выказаць. І не абавязкова з імі трэба пагаджацца. Мы знаёмыя са Знічом гадоў з дваццаць, правялі доўгія гадзіны ў размовах і дыскусіях, часам моцна спрачаліся. Нярэдка я не пагаджаўся з яго меркаваннямі і ацэнкамі, але гэта не дае мне права вінаваціць яго ў Бог ведама якіх грахах.

На жаль, нам усім не хапае ўзаемнай павагі, лагоднасці і хрысціянскай любові. Неабходна ўсё ж з большай цярпімасцю адносіцца да сваіх сучаснікаў. Асабіста я лічу свае стасункі са Знічом вялікім падарункам лёсу. У цяжкіх жыццёвых выпрабаваннях ён заўжды быў побач.

**Алесь КЛЫШКА.**
**Мінск.**

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО



На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА “Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў” Васіль ВАЛАСЮК.

## Экран планшэта – з дэфектам

*Набылі планшэт, працуе добра. Але, калі вырашылі паставіць на экран спецыяльнае ахоўнае шкло, майстар сказаў, што не зможа гэтага зрабіць, бо шкло няроўнае. Няўзброеным вокам гэты хіб адразу і не ўбачыш. Ці можна замяніць планшэт альбо патрэбна экспертыза тавару?*

**Святлана ПРАЦЭВІЧ, г.Шчучын.**

– Па заяве вы можаце адмовіцца ад рамонту і патрабаваць замены тавару.

## Не задавальняе якасць абслугоўвання ў гасцініцы

*Нярэдка бываю ў камандзіроўках, ёсць прэтэнзіі да якасці паслуг у некаторых беларускіх гасцініцах. Што рабіць, калі ў гатэлі ў мяне з’явіліся такія прэтэнзіі, але адміністрацыя ўстановы не рэагуе на іх?*

**Антон ЗАПОЛЬСКІ, Мінск.**

– Калі нумар быў папярэдне забраніраваны, патрабуйце, каб вярнулі грошы. Калі ж не, прасіце, каб вам далі іншы нумар.

## Як вярнуць дзверы ў магазін?

*Некалькі гадоў таму купілі дзверы ў кватэру, але паколькі рамонт не рабілі, то і дзверы да нядаўняга часу не ставілі. Зараз падчас рамонту высветлілася, што яны за гэты час рассохліся, а магазін адмаўляецца прымаць тавар назад. Маўляў, гарантыйны тэрмін закончыўся. Што рабіць?*

**Сяргей КАРНІЛАЎ, Віцебск.**

– Калі не хочуць прымаць дзверы назад, то рабіце экспертызу. Эксперт і высветліць прычыну недахопу.

## Не падыходзяць туфлі

*Купіла абутак. Тры дні пахадзіла і канчаткова ўпэўнілася, што туфлі мне ціснуць. Ці можна вярнуць тавар у магазін?*

**Алена ЦІШКЕВІЧ, г.Слуцк.**

– Так, на працягу 14 дзён з дня пакупкі маеце права вярнуць тавар.

## Не вінаватая, а затрымалі

*Нядаўна я патрапіла ў непрыемную сітуацыю: мяне спынілі ў супермаркеце па падазрэнні ў крадзяжы. Супрацоўнікі аховы папрасілі паказаць усе рэчы, якія ёсць у маёй сумцы. Я адмовілася гэта зрабіць. Тады яны выклікалі міліцыю і ў рэшце рэшт упэўніліся, што памыліліся. Куды ў такіх выпадках можа паскардзіцца спажывец? І наогул – ці можа?*

**Святлана, Мінск.**

– Можаце патрабаваць ад адміністрацыі кампенсацыі за нанясенне маральнага ўрону.

## Веласіпед з недахопам

*Купілі дзіцячы веласіпед, але праз два дні кола здзьмулася. Не думаю, што пракалолі яго за такі кароткі тэрмін. Што ў такой сітуацыі рабіць? Звяртацца ў магазін? Зрабіць экспертызу?*

**Аксана ГУБАРЭВІЧ, Гродна.**

– Звяртайцеся з прэтэнзіяй у магазін.

## Набыў планшэт на акцыі

*Набыў планшэт на акцыі, але праз некалькі дзён спецыялісты заўважылі ў ім дэфект. У той жа час акцыя ў магазіне на гэты тавар ужо закончылася, і зараз ён каштуе на 15 працэнтаў даражэй. Калі я захачу абмяняць планшэт, ці павінен даплачваць?*

**Алег МІХЕЙЧЫКАЎ, г.Чэрвень.**

– Вам павінны замяніць планшэт без усялякіх даплат.

## Заплаціць за зборку мэблі

*Заказалі шафу-купэ, якая была выстаўлена ў гандлёвым цэнтры. Шафа нам спадабалася, мы даўно планавалі такую купіць. Калі яе нам прывезлі, то заявілі, што зборка шафы – паслуга, за якую трэба плаціць асобна. Ці мае магазін на гэта права?*

**Анатоль ВЯЛІЧКА, г.Ляхавічы.**

– Усе гэтыя моманты павінны абмяркоўвацца загадзя... 

– Усе гэтыя моманты павінны абмяркоўвацца заранеей, але прадавец не абавязаны вам збіраць мэблю бясплатна. Хаця, безумоўна, ёсць магазіны, у якіх кошт зборкі ўключаны ў кошт тавару.

## Калі згубіў касавы чэк

*Я не захаваў касавы чэк на камп’ютарнае крэсла. Ці можна без чэка звярнуцца ў магазін са скаргай на тое, што крэсла зламалася? Тавар праслужыў усяго два месяцы, выйшаў са строю механізм рэгуліроўкі вышыні крэсла.*

**Сяргей ШАЛІМА, г.Полацк.**

– Заяўляйце прэтэнзію ў магазін з указаннем, што тавар набывалі менавіта тут. У якасці сведак могуць выступіць жонка альбо дзеці.

## Рамонт зацягнуўся…

*Пральную машыну абяцалі адрамантаваць на працягу 10–15 дзён. Прайшло ўжо паўтара месяца, а яе да гэтага часу рамантуюць. Што рабіць?*

**Васіль ЮРЭВІЧ, г.Валожын.**

– Зрабіце запіс у Кнізе заўваг і прапаноў, укажыце на парушэнне тэрмінаў рамонту, а таксама на тое, што вам нанесены маральны ўрон.

КУЛЬТ ЛИЧНОСТИ

# Как президенты Центральной Азии превращаются в падишахов

*«Лучший правитель – тот, о котором народ знает лишь то, что он существует», – говорил китайский философ Лао-цзы. В Швейцарии, например, далеко не каждый житель знает имя действующего президента, который избирается только на один год, да и состав федерального правительства население представляет себе не очень ясно. Однако несмотря на это, а может, и благодаря этому люди в Швейцарии живут весьма благополучно.*

*Совсем иначе обстоит дело в странах Центральной Азии. Тут подавляющее большинство граждан – или правильнее сказать, подданных – любит своих властителей, умиленно следит за каждым их шагом и по мере сил творит из них кумиров, а то и просто живых богов. Чинопочитание культивируется тут на всех уровнях, президентам приписываются все возможные и невозможные качества, присущие скорее небожителям, чем смертным. Если говорить совсем просто, тут десятилетиями создается и поддерживается культ личности человека, который в данный момент находится у власти.*

*В этой дружной симфонии восхваления и обожания трудно услышать голос честности и здравомыслия. Да и мало кто рискует подать такой голос – заклюют, объявят врагом народа. Чиновники всех уровней стараются максимально контролировать ситуацию и не допускать даже видимости противодействия власти. Однако таджикская пословица гласит: «Вели дураку принести чалму – он принесет ее вместе с головой». Не в меру ретивые и старательные чиновники часто служат источником разного рода казусов, ляпов и даже конфликтов.*

### Елбасы с привилегиями

Культ личности правителя в постсоветской Центральной Азии начался в Туркмении: **Сапармурат Ниязов** получил официальный титул «Туркменбаши» («Отца всех туркмен»), его золотыми статуями был уставлен Ашхабад, в честь Ниязова называлась горы, города, выпускались монеты и так далее. В 2006 году Ниязов умер, но традиции культа личности никуда не ушли из региона – наоборот, они расцвели махровым цветом.

Почтенным и почетным званием «Лидер нации» в Центральной Азии обладают сразу три президента – **Назарбаев, Бердымухамедов и Рахмон.** Пальму первенства в данном случае следует отдать президенту Казахстана – именно он стал законодателем моды в этом деликатном вопросе.



Сооронбай Жээнбеков, Эмомали Рахмон, Нурсултан Назарбаев и Шавкат Мирзиеев

В 2010 году Нурсултан Назарбаев был провозглашен «елбасы», то есть лидером нации. Нелишне заметить, что почетное звание сопровождается рядом очень серьезных привилегий. На елбасы «не распространяется ограничение права быть избранным в президенты Республики Казахстан». Кроме того, елбасы гарантирована неприкосновенность всех членов его семьи и их имущества, включая банковские счета, даже в случае ухода самого елбасы с поста президента. Тому, кто осмелится осквернить изображения лидера нации или каким-то иным образом его оскорбить, грозит до 3 лет тюрьмы. И, наконец, государственные органы должны согласовывать с елбасы все свои инициативы. Очевидно, что елбасы – это нечто больше, чем просто президент.

Титулу «елбасы» сопутствуют и более мелкие, но не менее приятные детали. Так, Национальный университет обороны носит имя Назарбаева, аэропорт в Астане, проспект в Алма-Ате, существует библиотека его имени, а также школы, названные в его честь. О елбасы снята киноэпопея «Путь лидера», написаны десятки, если не сотни разных книг, ему поставлено какое-то количество памятников уже при жизни. Можно сказать: «Что позволено елбасы, не позволено обычному президенту».

### Аркадаг на все руки

Не отстает от Казахстана и Туркмения. В том же 2010 году придворные льстецы дали президенту **Гурбангулы Бердымухамедову** титул «Аркадаг», то есть покровитель. Или, переводя с чиновничьего, наша твердыня, надежда и опора. Он, как в пословице, оказался и швец, и жнец, и на дуде игрец. Бердымухамедов – чрезвычайно разносторонняя личность: он и наездник, и автогонщик, он поет, играет на музыкальных инструментах, сочиняет музыку, не говоря уже о том, что стреляет в цель из любого оружия, исключая разве что межконтинентальные ракеты. У Аркадага необыкновенный талант – писать книги на разные темы, начиная от философских и медицинских и заканчивая текстами по коневодству. Отныне настольными книгами школьников стали книги Бердымухамедова.

От своего предшественника Туркменбаши Ниязова он взял самое лучшее, в частности, любовь к роскоши: даже огородный инвентарь у Бердымухамедова золотой, в том числе и лейка.

### Конкурент Всевышнего

Позже всех почетное звание получил президент Таджикистана Рахмон. В 2015 году парламент страны присвоил президенту Рахмону официальный статус Лидера нации «Пешвои миллат», а также титул «Основатель мира и национального единства».

В день присвоения звания депутаты в парламенте читали стихи, посвященные Рахмону. Его сравнивали с Джорджем Вашингтоном, Махатмой Ганди, Джавахарлалом Неру, Ататюрком, Нурсултаном Назарбаевым и Ли Куан Ю. Согласно закону о Лидере нации, Рахмон получил ряд привилегий. За ним сохраняется пожизненное право влиять на политику государства – даже после отставки с поста президента. Кроме того, он освобождается от ответственности «за действия в период исполнения полномочий главы государства». Супругу Рахмона предложили объявить «лидером исламских женщин», а его самого местные спортсмены объявили своим Верховным тренером. Дошло до того, что его бывший соперник на президентских выборах Хикматулло Насриддинов предложил выдвинуть Рахмона на Нобелевскую премию мира.

В Таджикском национальном университете стали читать лекции на тему «Эмомали Рахмон – архитектор нового государства таджиков». Среди студентов объявили конкурс на лучшее сочинение о лидере нации. В честь Рахмона назвали село в Горно-Бадахшанской автономной области, фруктовый сад, посаженный на юге страны, и многое другое. Чиновники высокого уровня полюбили вывешивать на баннерах свои фотографии вместе с президентом. Рахмон, однако, выразил свое недовольство такой фамильярностью. Совместные фото мгновенно исчезли, так что теперь во всех уголках Таджикистана красуются портреты президента в одиночестве.

### У киргизов – не культ, а политика

На фоне всеобщей любви и преданности правителям оригинально выглядят жители Киргизии, которые после свержения Бакиева в 2010 году сделали все, чтобы президент не успевал в своем кресле даже забронзоветь, не говоря уж о возможности превратиться в Лидера нации или местного бога. Здесь нет баннеров с изображением президента, нет памятников в его честь, нет специальных законов, защищающих его и его семью: законом защищен только бывший президент, и то сейчас в парламенте обсуждают возможность лишить его неприкосновенности.

Более того, президентов здесь часто ругают. Так, средства массовой информации не полюбили Атамбаева, которого активно критикуют даже после его ухода. Но экс-президент в долгу не остается. Журналистов, правозащитников и гражданских активистов он именует дерьмом, провокаторами и вонючками, а публикации в прессе зовет «какашками».

Кроме того, Атамбаев грозит «вернуться», «сжечь каленым железом» своих оппонентов и «очистить» страну от врагов и начал войну с нынешним президентом Сооронбаем Жээнбековым. Однако Жээнбеков в свою очередь начал освобождать свое пространство от доставшихся ему «по наследству» преданных Атамбаеву чиновников.

### Гурбангулы и кони

Президент Туркмении участвует и в автогонках, и в лошадиных скачках. При этом он оказывается неизменным победителем и рекордсменом, даже если вдруг свалится с коня.

Увы, с лошадьми Аркадагу Мяликгулыевичу не везет. В 2010 году, когда ему присвоили звание покровителя всех туркмен, к нему подвели ахалтекинского скакуна Горкли. Расторопные джигиты пытались заставить коня встать на колени, но породистый и гордый Горкли на колени не встал, чем вызвал невероятное удивление всех туркменских чиновников.

Другой лошадиный конфуз вышел с Аркадагом в 2013 году. Его собственный жеребец Беркарар взял и сбросил его прямо на скаковой дорожке. Президента, лежащего без сознания, увезли на «скорой». В конце мероприятия живой и почти невредимый президент все-таки появился на публике и даже пообщался с провинившимся конем. Аркадаг попытался поцеловать скакуна, но тот опасливо отпрянул.

Несмотря на падение, в забеге президент все-таки победил, и победа эта принесла ему 11,05 млн долларов, которые он пообещал перечислить государственному объединению «Туркменские кони».

### И целуй меня везде...

Превозноcя правителя, важно знать, где следует остановиться. Иначе последствия могут быть самыми неожиданными.

Так, ныне покойный писатель Абиш Кекильбаев долгое время занимал пост государственного секретаря Казахстана. Случай действительно уникальный, никто из современных казахских писателей таких высот в карьере не достигал. Однако карьера этого сановника закончилась совершенно неожиданно – целованием руки президента Казахстана. Вскоре после этого он был снят с должности сенатора и изгнан с политического олимпа. Правда, как полагают, причиной стал все-таки не сам поцелуй, а тот факт, что Кекильбаев после этого посчитал себя слишком значимым лицом и перебежал дорогу другим VIP-персонам.

«Европейские писатели очень авторитетны и влиятельны в обществе, – говорит казахстанский прозаик и публицист Герольд Бельгер. –Никогда они не преклоняются перед власть имущими и не целуют им руки. В Европе и в Америке льстить и потакать чиновникам считается большим унижением. Нашим большим недостатком является возвышение чиновничества – потому что они имеют доступ к материальным благам. Мы чуть ли не встаем на колени перед акимами и большими начальниками. На Западе интеллектуалы себя считают выше любого чиновника. Они знают, что власть – это временное явление, а литература, культура, философия – ценности, которые никогда не исчезнут».

### Скромное обаяние власти

В Центральной Азии народ верит в магические возможности разнообразных амулетов и талисманов. Вера эта распространяется и на предметы, так или иначе связанные с президентами. Так, в Астане есть башня «Астана-Байтерек», в которой лежит приносящий удачу золотой отпечаток ладони казахстанского елбасы. Люди радостно толпятся на верхней площадке второго по высоте здания столицы Казахстана, стоят в очереди к небольшому столику, чтобы отметиться «золотым рукопожатием». Считается, что отпечаток имеет магические свойства и, если приложить к нему руку и загадать желание, то оно непременно сбудется.

В Таджикистане существует обычай стелить под ноги почетному гостю пойандоз – специальный кусок ткани. Так вот, пойандоз, по которому прошел Рахмон во время одной из его поездок по стране, тамошняя администрация позднее разделила между местными жителями. Десятки женщин встали в очередь, надеясь позже подстелить этот кусок ткани под ноги своим детям на свадьбе, чтобы они стали такими же богатыми и могущественными, как Пешвои миллат.

Мусульмане, как известно, почитают священный Коран. Перед чтением аятов они подносят Коран к губам и ко лбу. В Туркменистане такой же чести удостоились книги Аркадага, которые он обычно вручает вице-премьерам и главам министерств. Те в ответ кланяются Бердымухамедову и прикладывают подарок ко лбу, тем самым как бы признавая святость этих книг.

Чиновники и часть интеллигенции очень зависят от настроений своих президентов. Они боятся потерять свой статус, должность, доходы, а потому делают все возможное и невозможное, чтобы не попасть в опалу. Но если раньше нюансы личных отношений обычно оставались тайной между властелином и лизоблюдом, то теперь, в век информационных технологий, вся лесть, все пресмыкательство и вся рабская психология этих людей становятся известны каждому и делают их посмешищем в глазах окружающих. Впрочем, может быть, что ласковый взгляд тирана действительно значит для них больше, чем презрение всего мира.

**Международное информационное агентство «Фергана».**

СТАЛА ВЯДОМА...

### У Швецыі скралі дзве каралеўскія кароны

*Шведская паліцыя шукае злачынцаў, якія скралі з кафедральнага сабора дзве каралеўскія кароны XVII стагоддзя. Выкрадальнікі зніклі на маторнай лодцы.*

Каралеўскія кароны, якія прызначаліся для караля Карла IX, які кіраваў краінай у XVII стагоддзі, і яго другой жонкі – Крысціны, захоўваліся ў кафедральным саборы ў шведскім горадзе Стрэнгнес.

### Літва хоча аб'явіць Кампартыю злачыннай арганізацыяй

*Праект закона, які аб'яўляе Кампартыю Літвы (КПЛ) злачыннай арганізацыяй, падрыхтавалі і прадставілі на прэс-канферэнцыі дэпутаты ад апазіцыйнай кансерватыўнай партыі «Саюз Айчыны – Хрысціянскія дэмакраты» Аўдронюс Ажубаліс і Лаўрынас Касчунас.*

Па словах ініцыятараў, гэта вырашыць праблему адказнасці Кампартыі як юрыдычнай асобы за дзейнасць на шкоду Літве.

*«Падрыхтаваны законапраект належным чынам ацэніць савецкае мінулае і паслужыць аднаўленню гістарычнай справядлівасці»*, – сказаў Ажубаліс.

Аўтары дакумента прапануюць увесці абавязак для тых, хто балатуецца на выбарах усіх узроўняў, пазначаць канкрэтную пасаду, калі яны не займалі, а не былі радавымі членамі, у сістэме Кампартыі Літвы. Гэта закране таксама тых, хто ўдзельнічае ў конкурсах на замяшчэнне вакансій на дзяржаўнай і дыпламатычнай службе. Яны адзначылі, што гэта не пацягне за сабой санкцый.

У савецкі перыяд КПЛ была складовай часткай Камуністычнай партыі Савецкага Саюза (КПСС). У 1989 годзе КПЛ выйшла з КПСС, аднак адбыўся раскол. Самастойная КПЛ з 1990 года стала называцца Дэмакратычнай партыяй працы, у 2001 годзе злучылася з Сацыял-дэмакратычнай партыяй і прыняла яе назву. Другое крыло да забароны ў 1991 годзе дзейнічала ў якасці так званай Кампартыі Літвы на платформе КПСС.

### Казахстан і Расія ствараюць ракету для палётаў на Марс

*Казахстан далучыцца да распрацоўкі расійскай звышцяжкай ракеты, такую працу мае на ўвазе канцэпцыя супрацоўніцтва на касмадроме Байканур.*

Абедзве краіны маюць намер сумесна стварыць звышлёгкую ракету для запускаў малых спадарожнікаў, а таксама разгарнуць на Байкануры вытворчасць камплектуючых ракетнай тэхнікі.

Паведамлялася, што "Роскосмос" замовіў распрацоўку эскіза звышцяжкай ракеты коштам 1,6 мільярда расійскіх рублёў. Распрацоўку эскізнага праекта плануецца скончыць да 31 кастрычніка 2019 года.

Новая расійская распрацоўка звышцяжкіх ракет-носьбітаў зможа выводзіць на нізкую калязямную арбіту больш за 70 тон грузу. Плануецца, што будаўніцтва інфраструктуры для яе на касмадроме Усходні пачнецца ў 2026 годзе.

Паводле разлікаў "Роскосмоса", стварэнне звышцяжкай ракеты і будаўніцтва пад яе інфраструктуры абыдзецца ў 1,5 трлн расійскіх рублёў.



НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ

# Падводная лодка Казіміра Чарноўскага



Ішла восень 1829 года. Расійскі імператар Мікалай І усё яшчэ не мог забыцца пра паўстанне дзекабрыстаў 14 снежня 1825 года на Сенацкай плошчы расійскай сталіцы. Даўно ў турмах, цытадэлях і крэпасцях, на вечнай высылці і катарзе "вучацца жыццю" яго ўдзельнікі, кіраўнікі ж пакараны смерцю. Аднак час ад часу на стол цара кладуцца лісты вязняў з просьбай выбавіць з няволі.

Беручы ў рукі зварот 38-гадовага мінскага двараніна Казіміра Чарноўскага, Мікалай І спадзяваўся ўбачыць гэткую ж просьбу, бо пасланне было адпраўлена з турэмнай камеры Петрапаўлаўскай цытадэлі. Але нечаканым аказаўся змест. Вязень пісаў пра сваё незвычайнае вынаходства.

"У 1825 годзе я вынайшаў падводны карабель. Калі будзе неабходны матэрыял і дастатковая колькасць рабочых і патрэбных людзей, за 40 дзён магу збудаваць падводную лодку дажынёй некалькі сажняў, у якой можна плаваць пад вадой, апускацца на марское дно…"

Турэмны вынаходнік добра ведаў, што ўвесь расійскі флот, у тым ліку ваенны, дагэтуль з'яўляецца драўляным. І тым не менш раіў збудаваць лодку для падводнага плавання з металу. Ён даказваў, што лодка здолее плаваць як на паверхні мораў пад ветразямі, так і з выкарыстаннем вёслаў пад вадой. Можа быць карысны нават для збірання на дне рознай марской жыўнасці, жамчужын...

Цар чытаў далей: "І ў вайсковых мэтах яна будзе мець карысць, бо можна будзе пад вадой падплысць пад варожыя караблі і знішчыць іх альбо рабіць вылазкі ў нечаканых для непрыяцеля месцах…"

Хто ж ён – гэты дзіўны вынаходнік?

Нарадзіўся Казімір Гаўрылавіч Чарноўскі ў 1791 годзе ў маёнтку Карытніца Ігуменская павета (цяпер Чэрвеньскі раён) у сям'і памешчыка. У 1824 годзе ён становіцца студэнтам Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. На той час у расійскай сталіцы ваўсю насіліся вольналюбівыя памкненні. Чарноўскі далучыўся да дзейнасці Нацыянальнага патрыятычнага таварыства. У 1829 годзе яго арыштавалі, адабралі ўсе напрацоўкі наконт пабудовы падводнай лодкі.

Расійскі шэф жандараў Аляксандр Бенкендорф, які сам вёў допыт мяцежнага беларуса, прапанаваў прызнаць віну і стаць тайным платным агентам. Чарноўскі адмовіўся. У выніку апынуўся ў галоўнай цытадэлі для палітвязняў – Петрапаўлаўскай крэпасці.

Каб не звар'яцець у камеры-адзіночцы, Казімір Гаўрылавіч вярнуўся да свайго даўняга захаплення. Без усялякіх кніг, дапаможнікаў і тэхнічных прыстасаванняў таленавіты самавук па памяці зрабіў апісанне самаходнай падводнай субмарыны, аднавіў чарцяжы, абгрунтаваў праект яе будаўніцтва. Гэтая унікальная праца і лягла на стол расійскага самадзержца. Вязень меркаваў, што цар ацэніць яго талент і вызваліць з турмы. Ды не спраўдзіў Мікалай І спадзяванняў, загадаў дапрацаваць праект.

І зноў узяўся Чарноўскі за справу жыцця ў прамым сэнсе гэтага слова. Беларускі вынаходнік разумеў, што ён не першы, што шмат стагоддзяў вучоныя і самавукі многіх краін намагаліся стварыць падводны апарат. Нават славуты італьянскі жывапісец і скульптар Леанарда да Вінчы ў XVI стагоддзі распрацаваў першы праект лодкі, якая магла рухацца пад вадой.

Чарноўскага ж за ягоную рупнасць не толькі не адзначылі, а перавялі ў яшчэ больш суровую Шлісельбургскую цытадэль. Хоць і цяжка было, невыносна так, што спрабаваў паквітацца з жыццём, ды ад ідэі сваёй не адрокся. У 1832 годзе знямажаны фізічна і спакутаваны маральна нявольнік перадае яшчэ адну папку з чарцяжамі і новымі матэрыяламі. Ён меркаваў, што найбольш выгадна будаваць металічныя падводныя лодкі абцякальнай цыліндрычнай формы. Раней за іншых распрацаваў прынцыпова новы перыскоп, які высоўваўся знутры лодкі. Вынайшаў міну з хімічным узрывальнікам і скафандр для вадалазаў.

Вынаходнік дэталёва прадумаў размяшчэнне ўзбраення, спальных месцаў, нават кухні, распрацаваў сістэму вентыляцыі, падтрымання неабходнай атмасферы ў лодцы з дапамогай балонаў. Нязвыклай канструкцыі вёслы нагадвалі парасоны, якія маглі лёгка хавацца, каб не перашкаджаць плаванню лодкі пад ветразем, які таксама мог зручна складвацца. Ён прапанаваў новы спосаб апускання лодкі з дапамогай скураных мяхоў, якія маглі запаўняцца вадой, а для ўсплыцця вада з іх выкачвалася. Прыдумаў ён і сістэму амартызацыі падчас пагружэння на дно. Шмат што з прапанаванага беларусам насіла азначэнне "ўпершыню" і без перабольшання мела вялікае навуковае значэнне.

Аднак ваеннае расійскае міністэрства 30 верасня 1832 года адхіліла праект Чарноўскага. За свой навукова-творчы подзвіг ён атрымаў-такі царскую "ўзнагароду": у маі 1834 года яго выслалі на вечнае пасяленне ў Архангельскую губерню. Надзея вярнулася да турэмнага доўгажыхара. Яму дазволілі займацца праектаваннем жылых будынкаў. Аднак вальналюбства не выветрылася з душы Казіміра Гаўрылавіча. Яго апанавала ідэя паўстання. Летуценнікі намерваліся захапіць горад, заваладаць караблямі, сагітаваць матросаў і рушыць у Іспанію, дзе здзяйснялася тады чарговая рэвалюцыя.

Але намеры змоўшчыкаў былі выкрыты, іх арыштавалі. Цар вызначыў К. Чарноўскаму пажыццёвую ссылку ў Вяцкую губерню. Зноў, і на гэты раз канчаткова, вальналюбства Чарноўскага збанкрутавала. 27 кастрычніка 1847 года ў горадзе Сарапул ён памёр. Было яму ўсяго 55 гадоў. Больш за васямнаццаць з іх па царскай мілацці выпала правесці ў крапасных адзіночках і ссылках.

А турэмны праект беларускага вынаходніка рэалізаваў яго зямляк – ураджэнец мястэчка Сіманава Віцебскай губерні ваенны інжынер генерал-ад'ютант Карл Андрэевіч Шыльдэр. Ён збудаваў першую ў свеце суцэльнаметалічную падводную лодку. У жніўні 1834 года яна праходзіла выпрабаванні ў Архангельску, куды па царскім загадзе толькі што прыбыў са Шлісельбургскай крэпасці беларускі дваранін Казімір Чарноўскі.

САКРЭТЫ ПРЫГАЖОСЦІ

# Алена ЛАНСКАЯ: «Дома люблю быць без касметыкі»



*Заслужаная артыстка Беларусі Алена Ланская распавяла пра тое, як сочыць за сабой, якой касметыкай карыстаецца і чаму адмовілася ад мяса. А яшчэ прызналася, што захапляецца астралогіяй.*

### Пра касметыку і трэнажорную залу

Спявачка абавязкова некалькі разоў на тыдзень наведвае трэнажорную залу.

*“Канцэрты – гэта заўсёды цяжкая прафесійная касметыка, таму перыядычна ў мяне з’яўляюцца пытанні да маёй скуры, яна цяжка аднаўляецца,* – распавяла Алена slivki.by. – *Таму я часам хаджу на пілінгі, масажы – нічога незвычайнага. Таксама хачу адзначыць безын’екцыённую апаратную мезатэрапію: яна выдатна аднаўляе баланс скуры”.*

*Дома касметыкай Алена амаль не карыстаецца.*

*“Люблю апрануць баваўняны халацік, хадзіць па кватэры без касметыкі, зрабіць масачку, – гаворыць артыстка. – Што тычыцца майго цела – абавязкова трэнажорная зала, якую наведваю 2–3 разы на тыдзень”.*

### Пра мяса і пазітыўную энергію

Алена Ланская сочыць за сваім харчаваннем, і часцей за ўсё ўжывае прадукты расліннага паходжання і рыбу.

*“Апошнія некалькі месяцаў мне не хочацца есці жывёльную ежу, мяне турбуюць пытанні кармы і энергетычнай прасторы чалавека,* – гаворыць Алена. – *Бо мы, магчыма, самі руйнуем тое, што вакол нас ствараецца. Я прыйшла да высновы, што калі жывёла падчас забойства была ў агоніі і страху, то і прадукты харчавання з яе будуць несці энергію са знакам «мінус». Значыць, мы мінусуем сваю станоўчую энергію, якую так складана аднавіць.*

*Зразумеўшы гэта, мне стала прасцей успрымаць жыццё. Я пачала вельмі востра адчуваць, што ёсць прадукты, якія цябе напаўняюць энергіяй, а ёсць прадукты, якія ў цябе яе забіраюць.*

*Заўважала, што людзі, якія шмат ядуць мяса, пакутуюць на дэфіцыт станоўчай энергіі. Яны падпітваюцца энергіяй ад тых, хто выпраменьвае станоўчую энергію”.*

### Пра астралогію і соцыум

Алена Ланская лічыць, што зоркі ўплываюць на жыццё.

“Я захапляюся астралогіяй, таму што ўсё ў свеце ўзаемазвязана: і зоркі, і сансара, і наша фізіялогія, – *гаворыць яна*. – Напрыклад, усе ведаюць, як вызначыць знак задыяка па сонцы, але не ўсім вядома, хто мы па асцэндэнту. Бо, ведаючы гэта, можна лепш зразумець сябе. Напрыклад, па знаку задыяка я – Дзева: каханне, утульнасць, цяпло, ласка – гэта ўсё маё. А па асцэндэнту – Шалі, і для мяне вельмі важна быць карыснай у соцыуме. Я не магу прайсці міма няшчаснай жывёлы, якая просіць мяне аб дапамозе. Той, хто сочыць за мной у сацыяльных сетках, ведае, што я перыядычна прыстройваю звяркоў і птушак, якія часта прылятаюць да мяне…”

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Другое жыццё «Крумкачоў»

*Пасля вылету з вышэйшай лігі сталічная каманда не скарылася.*

Пра ўзлёт “Крумкачоў” мы пісалі неаднойчы, трыумф сталічнай каманды быў неверагодны. З другой лігі – у эліту, з аматараў – у прафесіяналы. У эліце старт таксама аказаўся феерычным, пад каток маладосці і энтузіязму трапілі нават гранды беларускага футбола, нязменныя прызёры апошніх гадоў мінскае “Дынама” і салігорскі “Шахцёр”. Балельшчыкі аддана падтрымлівалі любімую каманду, якую празвалі “народнай”, уласнікі прыватнага клуба разлічвалі на дывідэнды ад праекта.

Але гісторыя, як вядома, закончылася даволі сумна. Утрымліваць клуб у вышэйшай лізе – справа не танная, кожны сезон патрэбна было знаходзіць як мінімум 400–500 тысяч долараў. Пры гэтым заснавальнікі не з’яўляліся нейкімі супербагатымі алігархамі. Напрыклад, **Дзяніс Шунто** – звычайны малады чалавек, які гатовы быў прадаць нават сваю кватэру, каб рэалізаваць амбіцыёзны праект. Але кватэр у Шунто было няшмат, а грошы патрабаваліся штогод. Спонсары, як аказалася, таксама не вельмі імкнуліся дапамагаць прыватнікам. Трэба сказаць дзякуй дзяржаве, якая пра гэта паклапацілася. Бо, калі, напрыклад, нехта спансіруе дзяржаўны футбольны клуб, то мае за гэта льготы ў бізнесе. За супрацоўніцтва з прыватным клубам спонсару могуць у лепшым выпадку выпісаць грамату альбо паціснуць руку.

Адным словам, усё закончылася так, як і прагназавалі многія яшчэ тады, калі “Крумкачы” толькі ўзляцелі ў вышэйшую лігу. Клуб набраў пазык, кіраўніцтва павінна было ўсім: барысаўскаму БАТЭ, Федэрацыі футбола, трэнерам і футбалістам. Хтосьці цярпеў, у некаторых цярпенне заканчвалася. Ігракі пачалі разбягацца, а “Крумкачоў” наогул у гэтым сезоне не дапусцілі да ўдзелу ў вышэйшай лізе, бо каманда не прайшла ліцэнзаванне.

Думаеце, “Крумкі” склалі крылы? Як бы не так! Балельшчыкі знайшлі выйсце і зарэгістравалі НФК “Крумкачы”. У склад заснавальнікаў увайшлі варатар каманды **Яўген Касцюкевіч** і сусветна вядомы піяніст **Юрый Бліноў**, які з’яўляецца балельшчыкам каманды. Пазней да гэтай кампаніі далучыліся футбаліст **Кірыл Алесіян** і **Яраслаў Будзянскі**, уладальнік “Барбершопа”. У трэнерскі штаб увайшлі **Аляксей Кучук, Павел Валчэцкі** і **Аляксандр Лукаш**. Дапамагае клубу і **Дзяніс Шунто**, хаця ад зносін з журналістамі ён устрымліваецца.

*“Не хачу наогул даваць ніякіх каментарыяў, каб не нашкодзіць камандзе”*, – асцярожнічае Дзяніс. – *Можа быць, крыху пазней буду гатовы да гутаркі…”*

А вось **Юрый Бліноў**, які атрымаў ступень доктара музычнага мастацтва ў Істменскай школе музыкі і стаў першым беларускім піяністам, які выступіў з сольным канцэртам у знакамітым Карнегі-холе, абсалютна не шкадуе, што ўвайшоў у склад заснавальнікаў “Крумкачоў”.

*“Я футбольны аматар са стажам,* – распавёў Юрый “Народнай Волі”. – *Ды і сам у дзяцінстве ганяў мяч у двары, гульня мне вельмі падабалася. Праўда, скажам так, фізічныя кандыцыі былі не тыя, каб запісацца ў футбольную секцыю. Хутка бегаць і моцна біць – гэта крыху не маё. Таму ўсю сваю любоў да футбола я перанёс на прагляд матчаў з удзелам розных каманд, і, натуральна, маімі кумірамі былі футбалісты мінскага “Дынама”, якія ў 1982 годзе сталі чэмпіёнамі Савецкага Саюза. А вось пасля чэмпіянату свету ў 1986 годзе стаў, як ні дзіўна, перажываць яшчэ і за каманду Германіі. Гісторыя стварэння і ўзлёту каманды мне падалася вельмі цікавай. А калі схадзіў на стадыён на матчы з удзелам “Крумак” ды пазнаёміўся з балельшчыкамі і пабачыў, як тыя падтрымліваюць футбалістаў, то зразумеў, што цяпер мае сімпатыі – на баку гэтага клуба. Калі ж стала зразумела, што каманду выключаюць з вышэйшай лігі, сабраліся балельшчыкі і вырашылі, што клуб трэба ратаваць, а значыць, неабходна перафарматаванне, каб жыць далей. Сёння мы таксама рэальна ацэньваем свае сілы і можам сказаць, што “Крумкачы” – гэта доўгатэрміновы праект”.*








Неверагодна, але, нягледзячы на тое, што “Крумкачы” апусціліся з вышэйшай лігі ў другую, каманда практычна не згубіла сваіх прыхільнікаў – на матчы прыходзяць ад 400 да 800 балельшчыкаў. І пачалі выдатна – пасля стартавага паражэння “Крумкачы” атрымалі шэсць перамог запар і нейкі час узначальвалі турнірную табліцу. Праўда, зараз, пасля першага круга, каманда займае другое месца, хаця ў першую лігу ў выніку выйдуць менавіта дзве каманды.

Са слоў дырэктара “Крумкачоў” **Алега Давідовіча**, выхад у першую лігу забяспечыць бюджэт, эквівалентны 60–70 тысячам долараў, і зараз каманда жыве выключна па сродках.

*“Мы адмовіліся ад намеру праводзіць дамашнія матчы на САК “Алімпійскі”, бо там высокая арэндная плата,* – кажа ён. – *Таму пераарыентаваліся на стадыён РЦАР-БДУ, у нас добрыя адносіны з яго кіраўніком Уладзімірам Пігулеўскім. Асаблівая ўвага – продаж білетаў. Выручка за адзін матч дазваляе заплаціць арэнду за дзве-тры трэніроўкі. Займаецца каманда чатыры разы на тыдзень пасля васьмі вечара, бо практычна ўсе хлопцы заняты на асноўнай рабоце”.*

– Я па-ранейшаму працую ў “Макдональдсе” і гуляю ў “Крумкачах”, – пацвярджае словы дырэктара абаронца каманды **Аляксей ДРАЧОЎ**. – Натуральна, каманда вельмі моцна змянілася ў параўнанні з мінулым сезонам. Ад ранейшага складу засталося прыкладна 10 працэнтаў футбалістаў.

**– А па запазычанасцях клуб ужо разлічыўся з футбалістамі?**

– Наколькі мне вядома, не з усімі. Хаця асабіста я нават і не настойваў, каб са мной цалкам разлічваліся. Для мяне галоўнае – гуляць у футбол у “Крумкачах”.

**Алесь СІВЫ.**

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

# Меліціна Станюта з’ехала ў Кітай

*Знакамітая гімнастка на сваёй старонцы ў Інстаграме размясціла некалькі здымкаў з Пекіна, дзе зараз знаходзіцца.*

«*Адразу пайшла гуляць,* – падпісала першы здымак з Кітая беларуская гімнастка. – *Першыя ўражанні розныя – вельмі горача, вельмі шмат людзей, якія хаатычна выконваюць пакуль незразумелыя і непатрэбныя дзеянні. А яшчэ нясмачная вада (так, я адчуваю яе смак, і добрая вада для мяне вельмі важная!).*

*Але ўсё літаральна дыхае гісторыяй і цікавымі традыцыямі. Напрыклад, вы ведалі, чаму ў кітайскіх будынкаў такі выгнуты дах? Таму што яны лічылі, што злыя духі могуць рухацца толькі па прамой, а такі крывы дах абароніць іх дом!”*

Меліціна Станюта сфатаграфавалася побач з храмам у цэнтры Пекіна.

*“Быў пабудаваны для імператарскіх малітваў і ахвярапрынашэнняў у 1420 годзе без адзінага цвіка і бетону!”*, – адзначыла яна.



Таксама Меліціна Станюта нагадала, што беларускі пасол у Кітаі **Кірыл Руды** распачаў кампанію па змяненні назвы беларускай дзяржавы на кітайскай мове. Раней на кітайскай мове Беларусь пісалі як “Белая Расія” ці “Беларуссія”.

*“Сёння для жыхароў Кітая беларусы – выхадцы з краіны пад назвай «Белая Расія»*, – гаворыць Руды. – *Напэўна, усім беларусам, якія калі-небудзь вучыліся ці працавалі ў Кітаі, даводзілася тлумачыць, што мы не частка Расіі, не адзін з расійскіх рэгіёнаў і што наша краіна правільна называецца “Беларусь”.*

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

ФОРТУНА

# Счастливчик!

*Белорус Никита Бодяковский выиграл в покер 5,2 миллиона долларов. Он стал победителем турнира по покеру в южнокорейском городе Чеджу.*

Призовые белорусского игрока в итоге составили 41.250.000 гонконгских долларов, что в пересчете равно примерно 5.215.000 американских долларов, пишет belmir.by.

Данный выигрыш – самый крупный не только в карьере самого Никиты, но и в целом за всю историю выступления белорусских покеристов на «живых» турнирах.

Напомним, ранее крупнейшей суммой, которую брал Бодяковский, были 2,5 млн долларов, и заработал он их в мае этого же года на турнире этой же серии – Triton Super High Roller Series в Черногории.

Данный выигрыш оставался и национальным рекордом.

Новая победа также должна сильно поднять белоруса в рейтинге общего выигрыша за карьеру среди всех игроков мира. До турнира в Чеджу он находился на 52-м месте, сейчас окажется примерно на 28-м.

Ведь совокупные призовые нашего соотечественника в «живых» турнирах уже перевалили за 16 млн долларов.

Информация о выигрышах игроков в покер не отражает их реальный личный денежный баланс. Во-первых, даже при выигрыше из полученной в итоге суммы всегда следует вычесть деньги внесенного игроком вступительного взноса.

Во-вторых, нередки случаи, когда источником средств взноса являются инвесторы, поэтому игроку достается лишь часть призовых. В-третьих, на каждый выигрыш приходится ряд проигрышей, остающихся «за кадром», но игрок при этом лишается суммы взноса.



